


# Краязнаўчая газета

№ 16 (177)
Красавік 2007 года

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:






## 20 гадоў для культуры і дзеля Беларусі

## На полацкім напрамку

*Беларусы род свой павялі ад Крывічоў:*
*спачатку Крывічамі мы былі,*
*пасля Ліцвінамі былі...*

***Ніл Гілевіч***

Цяжка застацца раўнадушным, калі гартаеш старонкі Беларускай Энцыклапедыі або кнігі «Славутыя імёны Бацькаўшчыны». Колькі славутасцей дало Радзіме, скажам, старажытнае паселішча Крывічы, што на Мядзельшчыне! Швыкоўскія, Кішкі, Ходзькі...

З шасці Ходзькаў, адзначаных у эцыклапедыі, трое нарадзіліся ў Крывічах. Пачатак знакамітаму роду даў крывічанін Ян Ходзька (1777–1851). Ён быў вельмі адукаваны і неардынарны чалавек. Скончыў Галоўную школу Вялікага княства Літоўскага і «прайшоў усе прыступкі шляхецкай кар'еры, займаючы розныя пасады ў судах». У Яна і Канстанцыі Ходзькаў (жылі ў Крывічах) нарадзілася сямёра дзяцей – шэсць хлопчыкаў і адна дзяўчынка. Старэйшы сын Уладзіслаў быў суддзя ў суседняй Вілейцы, Феликс працаваў інжынерам на чыгунцы. Вядома, што ў 1881 г. ён служыў аж у Францыі. Міхал стаў матэматыкам, паэтам, Аляксандр – вядомым усходазнаўцам, юрыстам, дыпламатам. Знакаміты ў той час мемуарыст М. Мараўскі пісаў пра сям'ю Ходзькаў: «Калі дзе і быў Ходзька, то здольны. Неразумнага з гэтым імем я не ведаў».

***(Заканчэнне на стар. 2)***

Krzywicze, folw. pryw., pow. lidzki, 2 okr. adm., o 29 w. od Lidy, 1 dm., 9 mk. (1866); drewn. cerkiew prawosł.

**Krzywicze**, *Krywicze*, mko i folw., pow. wilejski, w 2 okr. polic., o 165 w. od Wilna, o 35 w. od m. Wilejki, o 14 w. od rz. Wilii, nad rz. Serwecz, 625 mk., własność Szwykowskich. Roku 1866 było 40 dm., 200 mk. Gniazdo możnego i znakomitego rodu Kiszków. Wojew. połocki Janusz Kiszka umarł bezpotomnie w K. 1653 r. Spadkobiercy oddali K. na zadosyćuczynienie wierzycieli, do czego Jan

*Апісанне старажытных Крывічоў у старой кнізе*

***Той, хто не помніць свайго мінулага, асуджаны на тое, каб перажыць яго зноў***

***Д. Сантаяна***

# Краязнаўства – наша жыццё

*Люблю цябе,*
*мой родны краю!*
*І калі мой апошні*
*час праб'е,*
*Скажу табе без пахвальбы,*
*што паміраю,*
*Аддаўшы ўсё,*
*што меў найлепшага, табе!*

*Пятро Бітэль*

Гэтымі словамі паэта-земляка прыемна адкрыць яшчэ адну старонку краязнаўчай тэматыкі.

Краязнаўчы ўхіл у рабоце бібліятэк Валожынскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы вызначыўся не так ужо і даўно, але зроблена шмат. Праца праводзіцца па асноўных напрамках: фарміраванне краязнаўчага фонду і яго выкарыстанне, стварэнне краязнаўчага даведачна-бібліяграфічнага апарату, напісанне летапісу бібліятэк, вёсак, мясцовых гаспадарак, садзейнічанне вывучэнню гісторыі свайго краю, вяртанне да падзей і імёнаў беларускай гісторыі і культуры, пошукі і захаванне мясцовага фальклору, звычаяў, правядзенне культурна-масавых мерапрыемстваў па адраджэнні самабытнай культуры, святаў і абрадаў.

Аддзелам бібліятэчнага маркетынгу Цэнтральнай раённай бібліятэкі сабраны багаты краязнаўчы матэрыял. Так, у зборнік «Зямля, што нас узгадавала» ўвайшлі звесткі аб знакамітых людзях Валожыншчыны, якія ўнеслі творчы і працоўны ўклад у жыццё раёна. У тэматычным зборніку «Пачуцці светлыя паэзія кранае» сабраны матэрыял аб маладых паэтах Валожыншчыны. У зборніках «Літаратурнымі сцяжынкамі Валожыншчыны» і «Валожыншчына – крыніца натхнення» прадстаўлены знакамітыя пісьменнікі і паэты Валожынскага краю, творы якіх вядомы далёка за межамі раёна і вобласці. У зборніку «Валожыншчына ў легендах і паданнях» сабраны назвы населеных пунктаў. Як дапаўненне да зборніка «За плячыма стагоддзе: з гісторыі Мінскай абласной бібліятэкі імя А.С. Пушкіна» складзены абагульняючы зборнік «Летапіс бібліятэчнай справы Валожыншчыны: з гісторыі бібліятэк Валожынскага раёна».

У апошнія гады ў дзейнасці бібліятэк з'явіўся новы накірунак, формы і метады якога пасапраўднаму яшчэ не апрабаваны. Гэта работа рэлігійнай тэматыкі. У зборніку «Дарога да святыняў» сабраны матэрыялы па гісторыі рэлігійных устаноў.

***(Заканчэнне на стар. 4)***

## На тым тыдні...

● Выстаўка вядомага беларускага скульптара Івана Міско, прысвечаная яго 75-годдзю, адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі. Сімвалічным з'яўляецца тое, што выстаўка «Космас Івана Міско» адкрыта напярэдадні Дня касманаўтыкі. Гэтай тэме майстра прысвяціў шэраг работ, стварыў галерэю партрэтаў касманаўтаў (Уладзімір Кавалёнак, Пётр Клімук і інш.). На выстаўцы прадстаўлена як скульптура, так і графіка, фота.

● У СШ № 90 г. Мінска перад старшакласнікамі выступіў пісьменнік Генрых Далідовіч на тэму: «Якуб Колас у маім творчым лёсе».

Навучэнцы з выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры да гэтай сустрэчы падрыхтавалі экспазіцыю, дзе былі прадстаўленыя творы госця, некаторыя вытрымкі з іх пра харaство прыроды і моц чалавечых духу, шчырасці і сумленнасці, а таксама выпісаныя арыгінальныя беларускія словы і выразы, характэрныя для стаўбцоўскай Налібоччыны. Генрых Далідовіч выказаў сваё ўяўленне неўміручага творчага аблічча славутага земляка, падзяліўся сваімі думкамі пра сённяшні стан беларускай прозы, адказаў на шматлікія пытанні, асабліва па тых творах (некаторыя апавяданні і раман «Гаспадар-камень»), што вывучаюцца па школьнай праграме. Ён таксама расказаў, як жыццёвы і творчы шлях нашых класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа адлюстроўваецца на старонках «Краязнаўчай газеты», дзе ён працуе.

На жаль, дагэтуль чатырохгадовая «КГ» была невядомая ў СШ № 90, але на сустрэчы прагучала запэўніванне, што гэты пралік будзе ў хуткім часе выпраўлены, і выданне пачне паступаць сюды.





# Удзячнасць ад землякоў

***У сакавіку ў чытальнай зале Дзяржынскай цэнтральнай бібліятэкі адбылася прэзентацыя новага твора нашага земляка-пісьменніка Алеся Рыбака – кнігі «Галаброды», якая з'яўляецца другой часткай рамана-дылогіі (першая – раман «Трэба было жыць»). Кніга выйшла ў свет у выдавецтве «Кніга-збор».***

Нарадзіўся Алесь Рыбак у в. Макаўчыцы (зараз у межах г. Дзяржынска) у даваенны час. Падчас фашысцкай акупацыі маленькі хлопчык страціў бацькоў, застаўся сіратою, пасля вымушаны быў пераехаць жыць да сваякоў у вёску Мікалаеўшчына, што на Стаўбцоўшчыне. Там ён і скончыў сярэднюю школу. Магчыма, што повязь з радзімай песняра Я. Коласа, сустрэча з ім дала штуршок развіццю творчым здольнасцям. Ён вызначыўся як паэт, празаік і журналіст. Шмат артыкулаў прысвяціў творчасці Я. Купалы і Я. Коласа. Сярод найбольш значных яго твораў можна назваць такія, як «Сёння прыедзе тата», «Што пасееш...», «Трэба было жыць».

Варта адзначыць, што Васіль Быкаў у свой час высока ацаніў творчасць пісьменніка. Алесь Рыбак працягвае актыўна працаваць. Летась надрукаваў аповесць «Маша і Машка», у якой закранае праблемы вымірання вёсак на Беларусі. Гэта асабліва падкрэсліў пісьменнік і журналіст Анатоль Валахановіч, які быў вядучым творчай вечарыны. Чытальная зала была перапоўненая, шмат прысутнічала моладзі. У час прэзентацыі выступілі многія бібліятэкары. Урыўкі з твораў А. Рыбака выконвала галоўны бібліёграф В. Жыбурт, аналіз твораў пісьменніка зрабіла загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі бібліятэкі В. Клімовіч.

Раман «Галаброды» – аўтабіяграфічны. У ім апісваюцца падзеі ў заходнебеларускіх вёсках перад пачаткам калектывізацыі, пра цяжкі лёс сялянства ў той складаны перыяд, калі неахвотныя да калгаснага ладу жыцця адразу ж залічваліся ў лік ворагаў народа, іх ссылалі ў паўночныя раёны Расіі.

У канцы сакавіка адбылася сустрэча Алеся Рыбака з вучнямі, настаўнікамі Дзяржынскай гімназіі № 1, дзе яго, земляка, таксама віталі цёпла.

***Лявон ЦЕЛЕШ,***
***г. Дзяржынск***



*«Узрошчаны пад Гайнай...» – так Купала абазначыў, якому кутку беларускай зямлі ён таксама абавязаны сваім нараджэннем як паэт. Гайна – калісьці невялічкае, ля вытокаў ракі Гайны і паблізу Лагойска, мястэчка. Але акрамя паэтычнага вызначэння – «я толькі верабейка, узрошчаны пад Гайнай» – ёсць яшчэ кароткая заўвага і ў аўтабіяграфіі Купалы: «...свае дзіцячыя гады я правёў у розных кутках Барысаўскага і Мінскага паветаў, вандруючы ад арэнды да арэнды». Большасць мясцін, па якіх амаль 30 гадоў вандравала сям'я беззямельнага арандатара Дамініка Ануфрыевіча Луцэвіча: Юзафава, Косіна, Прудзішча, Аўгустова, Слабодка, Гаяны, Селішча, Мачаны, Казіміраўка, Бяларучы, Малыя Бясяды, Карпілаўка, Акопы – усё гэта лагойскія вёскі, частка якіх у той час уваходзіла ў Барысаўскі павет Гайна-Слабодскай воласці. Так пісаў пра «Паэтычную калыску Купалы» Леанід División Пракопчык.*

*Я не сокал зоркавокі,*
*Не арол адважны,*
*Што так думна за аблокі*
*Узносіцца з іх кажны.*

*Нават я не салавейка,*
*Што пяе так слаўна,*
*А я толькі верабейка,*
*Узрошчаны пад Гайнай.*

***Янка КУПАЛА***

# «Узрошчаны пад Гайнай»

Ці бываў Купала ў самой Гайне? На жаль, звестак не захавалася, напэўна, загінулі ў вайну разам з архівам, аднак няма і ніякага сумнення, што бываў. На маю думку, ён не мог абмінуць найбліжэйшых кірмашоў, што праводзіліся ў мястэчку кожны год, мог прыязджаць і ў лаўку па тавары. У гэтай вёсцы паэт пачуў пра здарэнне, якое падказала яму сюжэт паэмы «Нікому», – гэта не сённяшняя Гайна. Меў Ян Дамінікавіч дачыненне і да вёскі Лагазы. Мабыць, у аснову паэмы «Адплата кахання» лёг сапраўдны выпадак, які адбыўся ў двары (маёнтку) Лагаза, а гэта ж зусім блізка. І калі вясной 1902 года ў Селішчы памёр бацька, то 19-гадовы Ясь (Янка Купала), старэйшы з семярых дзяцей, застаўся за гаспадара. Але жудасны для сям'і год прынёс яшчэ смерці: восенню на адным тыдні памерлі ад шкарлятыны брат Казік і дзве малодшыя сястры – Сабіна і Гэля. Пахаваны былі на каталіцкіх могілках за 17 кіламетраў ад Селішча, у мястэчку Корань. І кожны раз гэты жалобны шлях пралягаў праз Гайну, ля муроў калісьці славутага касцёла і побач з каталіцкімі могілкамі, але якія, амаль 40 гадоў таму, былі перайначаны ў праваслаўныя. І каб не здарылася апошняга, хто ведае, можа б не спатрэбілася працягваць гэты жалобны шлях яшчэ на 10 кіламетраў. І потым, у 1920–1930-я гады, наведваючыся на магілы бацькі, сясцёр і брата, мог неаднаразова праязджаць праз Гайну.

У дзяцінстве я быў добра знаёмы з бабуляй Галяй Шымчонак, якая жыла ў вёсцы Саўдзеневічы, што кіламетраў за 5 ад Гайны, і была цёткай маёй бабулі. Я часта бываў у яе ў гасцях, і яна неаднаразова расказвала мне, што была асабіста добра знаёма з Янкам Купалам, які ў маладосці прыходзіў да іх на вячоркі (больш за тое, хлопец Янка вельмі падабаўся ёй, яны часта вялі размовы, разам танчылі і спявалі). На вялікі жаль, гэта ўсё, што захавала мая памяць. Даўно няма ў жывых бабулі Галі, зараз не магу сабе дараваць, чаму ў мяне тады не хапіла розуму запісаць успаміны падрабязна. У Бясядах, пазней, Янка Купала пазнаёміўся і са сваёй будучай жонкай Уладзіславай Станкевіч, брат якой Вінцэнт служыў у маёнтку, а гэта ж зусім недалёка.

Вельмі цікавы і змястоўны артыкул пра адзіны лёс, які больш за 40 гадоў звязваў Янку Купалу з Лагойшчынай, змешчаны ў кнізе «Памяць» Лагойскага раёна. Яго аўтар – наш зямляк Мікола Гіль. Вось невялічкі ўрывак з яго: «...Мы, ураджэнцы і жыхары Лагойшчыны, толькі, бадай, прадчувалі, інтуітыўна здагадваліся, што мы – землякі народнага паэта, ці, наадварот, ён наш зямляк, родны, крэўны чалавек, які хадзіў разам з намі аднымі і тымі ж сцежкамі-дарожкамі, піў разам з намі адну і тую ж ваду з адных і тых жа крыніц, углядаўся разам з намі ў адно і тое ж неба, слухаў адзін і той жа трывожлівы пошум дубоў на нашых лагойскіх курганах, увабраў у сябе тыя ж, што й мы, казкі, легенды і паданні нашага куточка Бацькаўшчыны...»

***Анатоль ВЕРАМЕЙ***



*Гайна ў былой сядзібе Тышкевічаў у Лагойску*

# На полацкім напрамку

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Найбольш праславіўся (яго імя занесена ва ўсе энцыклапедыі свету) сын Яна Ходзькі – Юзаф. Ён таксама, як і бацька, нарадзіўся ў Крывічах 6 снежня 1800 г. і стаў вельмі вядомым вучоным, тапографам-географам, генералам. Бацька Юзафа часта мяняў месцы службы, і сям'я павінна была пераязджаць на іншае месца жыхарства. Але куды б ні закідваў лёс Ходзькаў, іх надзейнымі і вернымі спадарожнікамі заўсёды былі кнігі. Тут быў цэлы акіян ведаў, творы ўсіх лепшых еўрапейскіх вучоных і пісьменнікаў. Браты карысталіся гэтым скарбам штодзённа. Атрымаўшы вельмі добрую хатнюю адукацыю, Юзаф становіцца навучэнцам гімназіі пры універсітэце ў Вільні, а затым і студэнтам фізіка-матэматычнага факультэта гэтай жа ўстановы. У 1821 г. ён паспяхова яго заканчвае і пачынае рыхтавацца да паступлення ў аспірантуру. Наперадзе магла б быць цікавая праца. Але, як лепшага выпускніка, Юзафа Ходзьку рэкамендуюць у склад групы Яго Імператарскай Вялікасці па стварэнні ваенна-тапаграфічных карт.

Адсталасць царскай Расіі ў гэтай справе была прадэманстравана на працягу войнаў першых дзесяцігоддзяў XIX ст., паколькі карты, якія былі ў войсках, не задавальнялі ні па дакладнасці, ні па змесце. У 1822 г. Ходзька атрымлівае даручэнне скласці дакладныя тапаграфічныя карты Літвы, Латвіі, Гродзенскай і Мінскай губерняў. Затым была Румынія: яе княствы Малдавія і Валахія. У 1839 г. Юзафа Ходзьку накіроўваюць на Каўказ. Менавіта тут ён набывае найбольшую вядомасць. Першым трапіў у высакагорную частку Грузіі – Сванецыю, першым пакарыў яе вяршыні. Праца ў гарах была небяспечнай – на Каўказе ішла вайна з вольналюбівымі горцамі. Людзі слізгалі, мерзлі, абдзіраліся, коні з паклажай правальваліся ў бездань... Пастаяннымі спадарожнікамі атрада былі лавіны, абвалы, густыя туманы, грамавыя ўдары, якія неслі патокі электрычнасці...

Толькі з 1847 па 1852 год Юзаф Іванавіч падымаўся на вяршыні Арарат (5 165 м), Агладан (2 998 м), Гадарэбі (3 198 м), Гадзіс (2 542 м), Зіма-Кох (3 857 м)... Потым былі тапаграфічныя даследванні ў Турцыі. У 58 гадоў ён – генерал-маёр, а ў 1862 – генерал-лейтэнант, у 1868 г. даследчыку-вучонаму была прысуджана вышэйшая ўзнагарода Рускага геаграфічнага таварыства – вялікі Канстанцінаўскі медаль. Цяжкія разумовая і фізічная праца на працягу ўсяго жыцця падарвалі здароўе Юзафа Іванавіча і ў 1881 г. назаўсёды скончыліся яго зямныя маршруты, а лепшы помнік славутаму крывічаніну – трыганаметрычныя пункты і вышкі, хоць на іх і няма імя Юзафа Іванавіча Ходзькі.



*Будслаў, Даўгінава, Крывічы, Параф'янава на старой гравюры*

Не менш цікавае жыццё пражыў і іншы крывічанін, родны брат Юзафа, Аляксандр (1804–1894) – паэт, вучоны, мовазнаўца, дыпламат... Ён таксама скончыў Віленскі універсітэт, толькі філалагічны факультэт. Працаваў перакладчыкам, скончыў аддзяленне жывых моў пры Азіяцкім дэпартаменце Міністэрства замежных спраў, спецыялізаваўся па Персіі. Аляксандр Ходзька выдаў граматыкі персідскай і турэцкай моў, яго працы дапамагалі развіццю фалькларыстыкі і літаратуры народаў Каспійскага ўзбярэжжа.



SŁOWNIK GEOGRAFICZNY
RÓLESTWA POLSKIEGO
I INNYCH KRAJÓW SŁOWIAŃSKICH
WYDANY
Pod Redakcyą
Filipa Sulimierskiego,
Bronisława Chlebowskiego,
Władysława Walewskiego,
TOM IV.
WARSZAWA.

*Геаграфічны слоўнік (захоўваецца ў Санкт-Пецярбургскай публічнай бібліятэцы)*

Шмат цікавых людзей звязала свой лёс з Крывічамі. Імі кіравалі Кішкі, Ходзькі, Любанскія, Укольскія. Вельмі шкада, што суцэльнай гісторыі паселішча не існуе. Вядомы асобныя факты-урыўкі, а ўпершыню яно ўпамінаецца ў 1493 г. У 1552 г. гэта была звычайная вёска «з 8 дымоў». Потым будуюцца царква (1640) і касцёл (1777). Ужо ў 1776 г. Крывічы – мястэчка Ашмянскага павета Віленскага ваяводства, а з 1793 г. – у складзе Расіі і цэнтр воласці Вілейскага павета.

Як сведчаць фотаздымкі на старонках рэдкіх кніг, зробленых краязнаўцам-беларусам А.А. Станкевічам, што захоўваюцца ў Публічнай бібліятэцы Санкт-Пецярбурга, у 1886 г. у Крывічах было ўжо 40 дамоў і 200 жыхароў, належалі яны знакамітаму полацкаму ваяводу Кішку. Дзейнічалі тут бальніца, школа, народнае вучылішча, 3 крамы, 3 заезныя дамы, карчма, два разы на год праводзіліся вялікія кірмашы. Вельмі цікавымі фактамі з жыцця Крывічоў у «польскі перыяд» валодаюць мясцовы аматар-краязнавец Л.І. Дзевялтоўскі і краязнавец з Маладзечна Ф.Г. Світа. З 1921 г. тут 623 жыхары і Крывічы ўжо – цэнтр гміны Вілейскага павета, дзе дзейнічала ўся неабходная інфраструктура з цэнтрамі па апрацоўцы дрэва і металу, працавалі 4 млыны, пошта, аптэка... А смак крывіцкага квасу ведалі гурманы аж з Варшавы. З 1940 па 1962 год пасёлак – цэнтр Крывіцкага раёна (цяпер Мядзельскі Мінскай вобласці).

Сёння Крывічы – вялікая вёска, якая адраджаецца. Як запэўніваюць раённыя ўлады, у 2007 годзе тут будзе пабудаваны сучасны аграгарадок. Як і ў даўнія часы, галоўнае багацце Крывічоў – людзі, працавітыя і шчырыя, душэўныя і простыя. І што яшчэ вельмі ўражвае – іх незвычайныя цярплівасць, патрыятызм і незалежнасць. Яны ведаюць гісторыю і ганарацца славай сваіх продкаў.

***Мечыслаў СТАНКЕВІЧ,***
***былы жыхар г.п. Крывічы***
***Мядзельскага раёна***





*Кароткі слоўнік*
## краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**ЧАРЫ** (вядзьмарства, чараўніцтва) – магічныя прыёмы (паводле забабонных уяўленняў), якія нібыта маглі адмоўна ўздзейнічаць на людзей і прыроду, прыносіць шкоду ці, наадварот, ратаваць ад яе. Яны ўзніклі ў глыбокай старажытнасці і, як прыйшлі да думкі многія вучоныя, на аснове неразумення людзьмі прычыннасці з'яў і законаў прыроды. Людскія страх і бяссілле параджалі неверагодныя ўяўленні пра духаў прыроды, душы людзей, веру ў незвычайныя сілы. Лічылася, што чараўнікі, ведзьмы, знахары, пазнаўшы свет больш за іншых і кіруючыся рознымі памкненнямі, у тым ліку і злымі, здольныя выклікаць засуху ці паводку, мор людзей і падзеж жывёлы, бясплоднасць і інш. Адпаведна, ва ўсіх бедах найперш вінавацілі ведзьмакоў і іх бязлітасна каралі. З прыняццем хрысціянства царква пачала весці актыўную барацьбу з язычніцтвам і часамі не грэбавала выкарыстаць веру непажаданага чалавека ў чары для таго, каб аб'явіць яго ерэтыком.

У XVI ст. у ВКЛ і ў Польшчы з'явіліся першыя дзяржаўныя законы на аснове Магдэбургскага права, накіраваныя супраць вядзьмарства. Напрыклад, Статут ВКЛ 1588 г. лічыў чары крымінальным злачынствам, справа аб якім пачыналася з пратэстацыі (заявы) пакрыўджанага з пералікам нанесенай яму альбо ягонай маёмасці чараўніком шкоды. Суд на поўным сур'ёзе дапытваў пацярпелага, сведак, а потым – вельмі строга абвінавачанага, якога маглі для атрымання прызнання і катаваць. Пакаранне за чары залежала ад «вынікаў» экзекуцыі і «прызнання»: абвінавачанага маглі прысудзіць да спагнання «нанесенай» страты, выгнання з месца жыхарства, лупцавання дубцамі, а то і да пакарання смерцю. Крымінальная адказнасць за чары існавала ў ВКЛ да 1776 г., калі была адменена сеймавай канстытуцыяй за анахранізм.

**ЧАС РУШЭННЯ** – усеагульная воінская мабілізацыя, апалчэнне, агульны паход у ВКЛ. Мог быць аб'яўлены вялікім князем са згоды шляхты толькі ў выпадку крайняй небяспекі (напрыклад, калі непрыяцель парушыў мірны дагавор ці згоду пра перамір'е).

**ЧАЦВЯРТАК** – беларуская назва польскага паўгроша (срэбная манета ў ВКЛ масай 1,30 г). Пачаў ўжывацца ў XVI ст.

**ЧАША** – адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў і вадкасці. У ВКЛ раўнялася 12 малым гарцам (каля 39 л).

**ЧАШНІК** (ад чаша), чэснік, – дварцовы і прыдворны чын у ВКЛ у XV–XVI стст. Прызначаўся са знаці, засядаў у радзе. Адказваў за напіткі да вялікакняжацкага стала. Былі чашнікі вялікі літоўскі, земскі і павятовы. Пасля XVI ст. ганаровы тытул.



*Дваровы казак (малюнак Я.П. Норбліна, XVIII ст.)*

# Беларускаму фонду культуры 20 гадоў

***На мой асабісты погляд, святкаванне такіх юбілеяў – гэта нагода для легальнай траты грошай. Зараз кожная малая і вялікая арганізацыі святкуюць юбілей праз 5 гадоў. Па стане ж нашай дзяржавы – стане эканоміі і беражлівасці – варта ўспомніць пастанову ўрада, якая вызначыла тэрміны святкавання юбілеяў: 25, 50, 75, 100. Мала ўспомніць, трэба было б і падтрымаць менавіта такую перыядычнасць юбілеяў. Астатнія «круглыя» даты можна адзначаць як пэўныя перыяды ў дзейнасці той ці іншай арганізацыі, установы.***

***Сваё 20-годдзе Грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» не збіраецца адзначаць юбілейнай датай і адпаведнай пышнасцю. Мы вырашылі, што ў 2007 годзе мы збярэм сяброў фонду для таго, каб падвесці вынікі работы за апошняе дзесяцігоддзе. Чаму менавіта 10 гадоў?***

Так склалася гісторыя нашай грамадскай арганізацыі, што перыяды яе існавання падзяліліся амаль на палову, на два этапы. Першы – Беларускае аддзяленне Савецкага фонду культуры: бурнае развіццё грамадскага руху і культуры, стварэнне шэрагу новых, нязнаных раней у краіне грамадскіх аб'яднанняў, моцная падтрымка іх дзяржавай.

Беларускае аддзяленне Савецкага фонду культуры выступала (зноў жа з арганізацыйнай і фінансавай дапамогай дзяржавы) як заснавальнік шэрагу грамадскіх нацыянальных і патрыятычных рухаў. Напрыклад, аб'яднанняў па падтрымцы роднай мовы, краязнаўства, народнай творчасці, фальклору, якія пачыналі сваю працу пад дахам БФК. Фонд стаў ініцыятарам і заснавальнікам многіх праектаў, якія былі аб'яднаныя ў адным дакуменце – праграме «Спадчына».

Праграма «Спадчына» стала асновай для доўгатэрміновай дзейнасці як Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры, так і яго паслядоўніка – Беларускага фонду культуры (пазней Грамадскага аб'яднання «Беларускі фонд культуры») на працягу ўсіх гадоў існавання. Ініцыятарам і непасрэдным стваральнікам праграмы «Спадчына» быў першы старшыня фонду народны пісьменнік Беларусі Іван Чыгрынаў.

Памятаю, з якім захапленнем, гордасцю за тое, што атрымаўся дакумент сапраўды эпахальны, Іван Гаўрылавіч гаварыў аб праграме «Спадчына» на калегіі Міністэрства культуры ў 1988 годзе. Сапраўды, гэта было штосьці новае, незвычайнае, бо пытанню захавання гістарычнай, культурнай спадчыны ў той час Міністэрствам культуры надавалася ўвагі вельмі мала.

«Спадчына» складалася з пяці раздзелаў, якія адлюстроўвалі асноўныя накірункі дзейнасці Беларускага фонду культуры, яго абласных аддзяленняў. І на іх спыніцца неабходна больш падрабязна.

Гістарычны раздзел «Спадчыны» скіроўваў грамадскасць (у тым ліку навуковую) на падрыхтоўку і публікацыю такіх выданняў, як «Гісторыя гарадоў і вёсак Беларусі», поўнага збору беларускіх летапісаў і хронік, папулярнай гістарычнай энцыклапедыі, выпуск кніг пра вядомых і забытых сучаснай грамадскасці, але знакамітых у мінулым дзеячаў навукі, культуры, адукацыі асоб. Важнаю тэмай працы лічылася стварэнне краязнаўчага таварыства і яго работа са школьнікамі і студэнтамі, увядзенне спецыяльнага прадмета «Краязнаўства» ў школьную праграму.

Была прадугледжана таксама дапамога па стварэнні ў раёнах і гарадах кнігі «Памяць», якая была падказана ў той час аддзелам культуры ЦК КПБ, дзе мне асабіста давялося якраз працаваць. Тагачасная назва гэтай праграмы, разлічанай на многія гады, «Летапіс народнай славы».



*І.Г. Чыгрынаў (першы злева), У.А. Гілеп (другі справа) падчас Дзён беларускай культуры ў Беластоку (Польшча) з сябрамі з Гродзенскай вобласці і Польшчы*

Раздзел «Культурная спадчына» праграмы прадугледжваў стварэнне аматарскіх аб'яднанняў народных майстроў, фальклорных суполак, шырокую прапаганду беларускай мовы, папулярызацыю жыцця і творчасці выдатных пісьменнікаў і паэтаў краіны В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, А. Куляшова і іншых.

У спецыяльным дадатку да вышэйназванай праграмы было вырашана ўшанаваць помнікамі славутых землякоў, гістарычныя падзеі, а таксама адкрыць новыя музеі.

Раздзел «Архітэктурная спадчына» ўводзіў ва ўжытак новае паняцце – «захаванне гістарычных гарадоў і паселішчаў», вылучаў ідэю стварэння «Статуса гістарычнага горада краіны», «Міжнароднага турыстычнага кальца "Белая Русь"». БФК сумесна з мясцовымі выканкамамі пачаў ствараць масавы грамадскі рух «Родны горад», «Роднае сяло», «Малыя населеныя пункты – мястэчкі», што прыняло да шэрагу святочных мерапрыемстваў у час іх юбілеяў (Друцк, Слуцк, Копысь, Дрыса і інш.). Быў распрацаваны пералік помнікаў гісторыі і культуры, якім патрэбна была рэстаўрацыя. Сярод іх – Верхні горад (Мінск), палац у Косаве, кляштар брыгітак у Гродне, многія аб'екты Полацка.

Раздзел «Вяртанне гістарычнай і культурнай спадчыны» скіроўваў грамадскую думку (упершыню ў нашай гісторыі) на неабходнасць вяртання на радзіму архіўных, музейных і бібліятэчных каштоўнасцей, вывезеных за межы ў часы розных гістарычных катаклізмаў. З гэтаю мэтай пры БФК стварылася спецыяльная камісія «Вяртанне», у абавязкі якой уваходзіла вывучэнне, збор інфармацыі пра каштоўнасці нашага народа, якія апынуліся ў іншых краінах на працягу стагоддзяў. Камісію ўзначаліў вядомы гісторык і літаратар Адам Мальдзіс, які вось ужо на працягу 17 гадоў плённа працуе разам з сябрамі камісіі – вядомымі беларускімі даследчыкамі ў галіне архіўнай, музейнай і бібліятэчнай справы.

Планавалася гэтую работу БФК праводзіць разам з Міністэрствам замежных спраў, Нацыянальнай камісіяй ЮНЕСКО, Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, іншымі грамадскімі арганізацыямі і творчымі саюзамі.

Трэба сказаць, што і другі этап дзейнасці БФК, які прыпадае на больш складаны час станаўлення Рэспублікі Беларусь як самастойнай і незалежнай дзяржавы, пацвердзіў правільнасць і дакладнасць абранага фондам накірунку. Як развіццё папярэдніх праграм фонду з'явіліся новыя праекты – такія, як «Славутыя імёны Бацькаўшчыны», «Траецкі кірмаш», выпуск штотыднёвіка «Краязнаўчая газета», разгарнулася выдавецкая дзейнасць створанага пад дахам БФК выдавецтва «Беларускі фонд культуры». Намаганнямі супрацоўнікаў фонду выйшлі, можна сказаць, рарытэтныя выданні: 7 зборнікаў з серыі «Вяртанне» (аб нашых каштоўнасцях, вывезеных за межы краіны); да 200-годдзя Адама Міцкевіча – «Пан Тадэвуш», да 200-годдзя Аляксандра Пушкіна – «Яўгеній Анегін», да 120-годдзя Якуба Коласа «Новая зямля» – на мове арыгіналаў і іх перакладаў. Шэраг кніг, брашур былі прысвечаны асобным помнікам гісторыі і культуры, этнакультурным і моўным праблемам краіны.



*Адно з першых пасяджэнняў Асацыяцыі «Канфедэрацыя творчых саюзаў», створанай з удзелам БФК у пачатку 1990-х гадоў (у цэнтры – старшыня БФК І.Г. Чыгрынаў)*

***(Заканчэнне на стар. 4)***





# Краязнаўства – наша жыццё

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Бібліятэкі сродкамі розных мерапрыемстваў стараюцца данесці да людзей веды аб сваёй радзіме, аб знакамітых людзях. Кніга і яе стваральнікі становяцца галоўным зместам бібліятэчных мерапрыемстваў, пра якія коратка хачу расказаць.

За апошні час Цэнтральнай раённай бібліятэкай сумесна з народным аб'яднаннем маладых пісьменнікаў і паэтаў «Рунь» пры раённым Цэнтры культуры праведзены шэраг літаратурных мерапрыемстваў.

Цікава адбыліся літаратурныя сустрэчы «Жывуць людзі, пакуль памяць жыве аб іх», прысвечаныя земляку-літаратуразнаўцу, крытыку, ураджэнцу вёскі Сакаўшчына Віктару Каваленку. На сустрэчу прыехалі родныя В. Каваленкі, пісьменнікі і паэты, прыйшло шмат вяскоўцаў.

Багата людзей, якія любяць паэзію, сабралася на прэзентацыю літаратурна-паэтычнага зборніка «Люблю наш край: Валожыншчына літаратурная». Гэта – шосты зборнік з серыі «Беларусь літаратурная», дзе сабраны творы шырока вядомых, а таксама маладых пісьменнікаў і паэтаў.

Цікава прайшла прэзентацыя паэтычнага зборніка «З вамі сэрца маё» мясцовага паэта Яўгена Зялкоўскага, а творчы вечар паэтэсы Марыі Шакун «Бацькоўская зямля крылы мне дала» атрымаўся сапраўдным святам.

Штогод бібліятэка прымае ўдзел у конкурсе юных літаратараў «Маладыя галасы». У сакавіку ў Цэнтральнай бібліятэцы адбылося вялікае мерапрыемства «Свята паэзіі роднага краю», прымеркаванае да Сусветнага дня паэзіі, якое сабрала работнікаў культуры раёна, навучэнцаў Валожынскага сельскагаспадарчага прафесійнага ліцэя і многіх прыхільнікаў паэтычнага радка.

Цэнтральная раённая бібліятэка дасылала на Рэспубліканскі конкурс «Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры» краязнаўчую працу «Зямля, што нас узгадавала», прысвечаную знакамітым людзям раёна; працу «Маленькая Радзіма вялікага чалавека» – пра жыццё і творчасць мастака, грамадскага дзеяча, ураджэнца вёскі Багданава Фердынанда Рушчыца; працу «Памяць сівых стагоддзяў» – пра гісторыю вёскі Лоск і Лоскага замка, дзе ў свой час была знакамітая друкарня Сымона Буднага.

Шэраг бібліятэк працуюць па краязнаўчых мэтавых праграмах. Прыкладам могуць быць наступныя праграмы: па эстэтычным выхаванні дзяцей і падлеткаў – «Шлях у прыгожае» (Сакаўшчынскай сельскай бібліятэкі), «Прыгожае – дзецям» (Дорскай сельскай бібліятэкі), па грамадзянскім і патрыятычным выхаванні падрастаючага пакалення – «Традыцыям бацькоў верныя» (Цэнтральнай раённай бібліятэкі), па прапагандзе краязнаўства сярод дзяцей і падлеткаў – «Спадчына» (Пугачоўскай сельскай бібліятэкі), па прапагандзе фальклору – «Вытокі» (Каменьскай сельскай бібліятэкі). Усе бібліятэкі сваёй работай садзейнічаюць выкананню агульных мэтавых праграм раёна: «Захаванне і адраджэнне народных промыслаў», «Моладзь Валожыншчыны», «Адраджэнне сяла», «Адораная моладзь», «Традыцыйная культура і дзеці».

Аддзелам бібліятэчнага маркетынгу Цэнтральнай раённай бібліятэкі распрацаваны метадычныя рэкамендацыі па краязнаўчай дзейнасці. Распрацаваны і выдадзены памятныя буклеты з серыі «Нашы знаёмыя і незнаёмыя землякі» да юбілеяў знакамітых людзей Валожыншчыны: «Віктар Шніп», «Фердынанд Рушчыц», «Ганна Рубацкая», «Міхась Курыла», «Уладзімір Градоўкін», «Віктар Каваленка», «Хведар Чэрня», «Напалеон Орда», «Янка Купала», «Якуб Колас», «Сымон Будны» і інш.

З серыі «Па гістарычных мясцінах» – буклеты «Вішнеўскі металургічны завод», «Івянецкі касцёл Святога Міхаіла Архангела і кляштар францысканцаў», «Валожынскія замалёўкі», «Валожынскі раён» і інш. Кожная бібліятэка распрацоўвае мясцовыя эколага-краязнаўчыя маршруты, якія дапамогуць лепш спазнаць свой край.

2007 год багаты на знамянальныя даты. Адна з іх – 125-годдзе з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа. Сёлета шырока адзначаецца і 200-годдзе з дня нараджэння Напалеона Орды – мастака, кампазітара, педагога, графіка, звязанага з Валожынам архітэктурнымі замалёўкамі «Валожынскі палац». Ва ўсіх бібліятэках пройдуць мерапрыемствы па ўшанаванні гэтых вялікіх людзей.

***Краязнаўства – гэта наша жыццё. І пакуль жыве гістарычная памяць – будзе жыць народ.***

***Уладзімір БУРАКОЎСКІ,***
***бібліятэкар***
***Валожынскай ЦРБ***

# Беларускаму фонду культуры 20 гадоў

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3)*

Беларускі фонд культуры – адзін з ініцыятараў стварэння і заснавання Асацыяцыі грамадскіх аб'яднанняў «Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў», у складзе якой мы цесна супрацоўнічаем з усімі творцамі, асабліва з тымі, хто падтрымлівае развіццё народнага мастацтва – Саюзам майстроў народнай творчасці, Саюзам фалькларыстаў. Адсюль вынікае і шэраг міжнародных праектаў, праз якія мы займаемся папулярызацыяй народнай культуры беларусаў за межамі нашай краіны (у Францыі, Швейцарыі, Польшчы, Расіі і інш.).

Як я адзначыў на пачатку артыкула, 20 гадоў – гэта яшчэ невялікі юбілей. Для БФК гэта – чарговы этап работы ў час не самы спрыяльны для здзяйснення задач, вызначаных Статутам арганізацыі і агульнарэспубліканскай праграмай «Спадчына». Тыя цяжкасці, якія пераадольвае цяпер наша дзяржава, выпрабавальным цяжарам ляжаць і на нашай грамадскай арганізацыі. Так сталася, што нас амаль не заўважаюць (і не дапамагаюць у рабоце) чыноўныя міністэрствы культуры, адукацыі, інфармацыі, фінансаў. Усе кантакты з дзяржаўнымі ўстановамі фонд трымае дзякуючы добрым адносінам, разуменню важнасці творчай дзейнасці БФК з боку кіраўнікоў устаноў і арганізацый культуры: бібліятэк (і сярод іх найперш Нацыянальная бібліятэка), музеяў (і ў першую чаргу тых, як Нацыянальны мастацкі музей, Музей гісторыі і культуры Беларусі, Музеі Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, П. Броўкі, Музей тэатральнай і музычнай культуры) і іншых. Прашу прабачэння за няпоўны пералік, аднак мушу назваць (далёка не ўсіх, хто заслугоўвае гэтага) тых сяброў фонду, хто сваім унёскам духоўнасці і аптымізму трымае сцяг Беларускага фонду культуры. Гэта – прафесары А. Грыцкевіч, А. Мальдзіс, М. Касцюк, Р. Гарэцкі, Я. Сахута, музеяведы, бібліятэкары і архівісты У. Адамушка, В. Скалабан, Т. Вяршыцкая, Н. Высоцкая, Л. Кірухіна, З. Кучар, Н. Чуева, В. Шаранговіч, пісьменнікі А. Бутэвіч, Г. Далідовіч, Н. Гальпяровіч, А. Кудравец, даўнія сябры Рады і Выканкама БФК – Л. Бароўскі, А. Вірчак, В. Гедройц, А. Міхальчанка, Э. Агуновіч, І. Вашкевіч, В. Ліцьвінка, У. Стэльмашонак, М. Шавель і іншыя. Сумленнем БФК мы лічым былога галоўнага рэдактара газеты «Звязда» Аркадзя Апанасавіча Тоўсціка, які (хоць ён ужо на пенсіі некалькі гадоў) і сёння сваімі парадамі, заўвагамі падтрымлівае наш фонд, спрыяе агульнаму аптымістычнаму настрою, асабліва, калі рукі апускаюцца (такое нярэдка здараецца) ад фінансавай безвыходнасці.

Вялікімі намаганнямі вось ужо чатыры гады БФК выдае сваю «Краязнаўчую газету». Пасля незразумелай з боку дзяржавы адмовы зарэгістраваць стваранае грамадскасцю «Краязнаўчае таварыства» наша выданне на абшарах Беларусі засталося практычна адзіным агульнадзяржаўным «прапагандыстам і агітатарам» краязнаўства. Краязнаўцы – школьнікі, студэнты, настаўнікі, работнікі музеяў, бібліятэк, архіваў і іншыя – усе зацікаўлены ў выхадзе такой газеты! Адсутнасць зацікаўлення застаецца хіба толькі... у школе, хоць і зразумела: там абавязковая падпіска на газеты ад «раёнкі» да «Советской Белоруссии» з'ядае ўсе школьныя грошы. Затое па-за ўвагай настаўнікаў і школьнікаў застаюцца такія важныя краязнаўчыя дзяржаўныя праграмы, як «Наш край» і «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся!» Тыя, што знайшлі і знаходзяць сваё поўнае адлюстраванне ў «Краязнаўчай газеце». Гэтая немажлівасць школы падпісацца на «КГ», з аднаго боку, змяншае інфармаванасць па важных рэспубліканскіх акцыях, а з другога, – не спрыяе адваротнай сувязі з «КГ»: атрыманню вестак ад школьнікаў, настаўнікаў пра іх удзел у маштабных мерапрыемствах. Упэўнены, што школы, іх музеі і бібліятэкі адкрылі б для сябе многа новага з вопыту работы іншых устаноў, каб «рызыкнулі» падпісацца на «Краязнаўчую газету». Творчай і тэхнічнай работай па выпуску нашага штотыднёвіка занята ўсяго 8 чалавек. За іх самааддачу, практычна грамадскую працу я шчыра ўдзячны і не магу не назваць усіх паіменна: Генрых Далідовіч (намеснік галоўнага рэдактара), Леанід Бароўскі (намеснік старшыні фонду), Уладзімір Пучынскі (адказны сакратар), Ала Савасцьянава (вярстальніца), Людміла Голубева, Аліна Федарэнка, Ігар Грэчка, Леанід Ахрамовіч. Будзем жа разам і надалей!



*Сустрэча ў рэдакцыі і фондзе з японскім беларусістам і перакладчыкам Го Косіна, які прадставіў свае пераклады У. Караткевіча і публікацыі іх у японскім друку*

***Спадзяюся, што ў маі 2007 года мы, сябры Беларускага фонду культуры, збярэмся для падвядзення вынікаў чарговага праекта – праекта БФК, Жыткавіцкага раённага аддзела культуры і ўрада кантона Ааргау (Швейцарыя). Гэта будзе прэзентацыя нашай агульнай кнігі «Запрашэнне» аб народных побытавых традыцыях палешукоў і швейцарцаў.***

***А Грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» працягвае сваю дзейнасць на карысць роднай гісторыі і нацыянальнай культуры...***

*Уладзімір ГІЛЕП,*
*старшыня ГА «Беларускі фонд культуры»,*
*галоўны рэдактар «Краязнаўчай газеты»*

*Фота з архіваў Людмілы Прохараўны Чыгрынавай і Уладзіміра Аляксандравіча Гілепа*





*Сябры фонда культуры на справаздачнай канферэнцыі ў зале Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі (27 лістапада 1997 года)*



# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



*(Працяг. Пачатак у №№ 3–15)*

Бачачы, што яго заклікі, на жаль, кранаюць не шырокія слаі грамадства, ён звяртаецца найперш да сумленнага, але асцярожнага люду:

*Дзе вы, хлопцы непакорныя,*
*Дзе вы з песняй удалою,*
*Як на поле на prасторнае*
*Вы хадзілі грамадою?*

*Ці замёрлі вы нячутымі*
*Серад лесу, серад поля;*
*Ці і вас скавалі путамі,*
*Ці і вас змагла няволя?*

*«Дзе вы?»*

Побач з гэтым Я. Купала не перастае, як, напрыклад, у вершы «Роднае слова», паўтараць пра магутнасць і неўміручасць беларускай мовы («Хоць гналі цябе, накладалі аковы, Дый дарма: жывеш, як жыло!»), а таксама, часамі спажываючы такую моцную сілу, як сатыра, абсякаць розныя чарнасоценныя выданні і іхніх лідэраў. Так, толькі ў 1929 годзе ў часопісе «Полымя» за сакавік месяц упершыню быў надрукаваны напісаны ў 1908-м верш «Усё саюзы...» і ў тым нумары было тлумачэнне, што названыя Я. Купалам русіфікатарскія газеты, якія прыкідваліся абаронцамі беларускага народа ад нацыяналістаў, «выдаваліся за грошы "ахранкі" і... змагаліся з "Нашай Нівай", разумеецца, і з беларускім нацыянальным рухам». Адпаведна, паэт здзекліва-насмешліва ацаніў «дабрадзеяў», сярод якіх былі і Купалавы землякі-сучаснікі:

*Ўсё саюзы ў беларусаў,*
*Ўсё апекуны, –*
*А бадай жа на іх немач!*
*Адкуль жа яны?!*

*Быў «Крестьянин»,*
*плёў «Крестьянин»*
*Сетки, як павук, –*
*Глупства выйшла –*
*бач няма ўжо*
*За што заццяць рук.*

*Скуль узяўся яшчэ шэльма –*
*«Общество» скуе, –*
*«Белорусское» няйначай.*
*Цёмныя мае.*

*Саланевіч ды з кампаніяй*
*Сцапаў гэту мысль.*
*А ўсё «истинным» духам*
*Смярдзіць, знай дзяржысь.*

## Далейшае сутыкненне з цэнзурай

Яно было непазбежнае, паколькі з самых старажытных часоў была ўведзеная служба віжання-высочвання над людзьмі адукаванымі і творчымі. Таму і брашура І. Свянціцкага, вершы Я. Купалы, і першая ягоная кніга не маглі не патрапіць у поле зроку царскіх выведнікаў. Яны пачалі даносіць, што ў Беларусі вырастае ў асобу значны паэт шляхетна-дваранскага паходжання і, галоўнае, еўрапейскага значэння. І, што самае небяспечнае, на беларускай глебе! На той, якую любіў геній паэзіі А. Міцкевіч і якую высока ацэньваў яшчэ адзін з ліку геніяльных – А. Пушкін.

*(Працяг будзе)*

# Хочацца сказаць...

***Мая паэтычная сфера – духоўны свет чалавека. «Сэрца маё – гэта раніца мая», «Я прыйшоў на зямлю, каб любіць...», «Я прыйшоў на зямлю, але жыў не на ёй», «На сэрцы трывожна – пара неспакойная», «Калі ўжо той спакой настане?»***

***Я са шкадаваннем праводзіў кожны дзень свайго жыцця і хваляваўся не толькі за сябе, а і за цэлы свет. І ці трэба нагадваць, з якім пачуццём я праводзіў кожны пражыты год. А шкадаванне – гэта перажыванне і роздум. Вось у такія хвіліны да мяне найчасцей і з'яўлялася Муза, як водарам лугавой квецені напаўняючы маё сэрца натхненнем. І гэта заўсёды здаралася напярэдадні Новага года. І з'яўлялася яна не на дзень ці два, а на месяц і больш. І толькі, сустрэўшы Новы год, я часова развітваўся з ёю.***

Аднак прыйшоў іншы час. Сонца жыцця даўно мінула зеніт і спускаецца да захаду (аўтару летась споўнілася 70 гадоў. – ***Рэд.***). Якія ж змены адбыліся ў духоўным свеце чалавека? На маю думку, вось якія:

*Нічога не здзіўляе,*
*нішто не захапляе –*
*Магчыма, толькі квецень*
*і водсвет палян.*
*Спеў жаўранкаў змаўкае –*
*і ўсё кудысь знікае,*
*Усё абрысы ценяў і зданяў набывае.*
*Ад праўды да сумненняў –*
*усё спавіў туман.*

А гэта значыць, што вытокі маёй паэзіі перасыхаюць. І што ж далей? «Паэзію заменіць рамяство»? Хутчэй за ўсё проза.

У незвычайным для мяне 2006 годзе я пачаў насіцца з «Меліярацыйнай сагай» – пішу пра меліярацыю Беларускага Палесся. А калі скончу, вазьмуся... не, збіраюся ажыццявіць задуму майго юнацтва – напісаць раман-эсэ «Бліскучыя дарогі». У маладыя гады – гэта спаборніцтва ў дасціпнасці... у побыце, пры сустрэчах з сябрамі і заўсёды ў прысутнасці прадстаўніц прыгожай паловы чалавецтва, у адну з якіх кожны з жартаўнікоў закаханы. Аднак... Колькі з часу гэтай задумы мінула гадоў? Не менш паўсотні. Пачынае шалёны разбег новае – дваццаць першае стагоддзе. І цяпер гэта будзе не спаборніцтва ў дасціпнасці легкадумнага і бестурботнага юнацтва, а эсэістычны збор «афарызмаў жыццёвай мудрасці», тым болей, што ў такіх афарызмах недахопу ніколі не бывае. Ва ўсіх сферах жыцця: і ў інтэлігенцкай – творчай, і ў народнай – працоўнай, і, вядома ж, у маладзёжнай. Пра пенсійную памаўчым...

Ну возьмем перш-наперш нашу, пісьменніцкую. Моладзь забаўляецца з камп'ютэрамі і інтэрнетам. Там ёсць усё, пра што можна толькі марыць. На кніжных прылаўках ляжаць усе жанры «дэмакратычнай» літаратуры – ад бульварнай да класічнай: фантастыка і жаночыя раманы, жахі і містыка, сенсацыйныя апісанні жыцця геніяў і святых. І гэта ўсё не наша, перакладное, пра якое ўпотай марылі савецкія чытачы. Айчынная літаратура (і не толькі беларуская) катастрафічна страчвае сваіх прыхільнікаў, а беларуская мова вывучаецца горш, чым замежная. Ну а ў нас на дзяржаўным узроўні – ужо другі пісьменніцкі саюз. У першым – сябры, у другім – члены. Абодва ліхаманкава папаўняюцца. Бедныя чытачы! Што іх чакае? Мо і добра, што іх мала? Адных друкуюць за кошт дзяржавы, другіх... Хто каго і за што – не зразумець: у аднаго на працягу некалькіх гадоў выходзіць два фаліянты... у «Фабрыцы каляровага друку», прытым з перакладамі вершаваных тэкстаў на рускую і англійскую мову. А кнігу другога, кнігу, якая набрала тры тысячы заявак (у нас, у Беларусі, на беларускай мове!) не выдаюць толькі таму, што яе аўтара «скарацілі» з пасады. Як, сцвярджаюць, за кампанію з іншымі. Кіраўнічы прынцып! Для параўнання дадам, што ў Расійскай Федэрацыі (на рускай мове!) найцікавейшыя кнігі, напісаныя паводле адкрытых архіўных дакументаў (скажам, «палітычныя бестселеры»), выходзяць тыражом ад 2 да 5 тысяч экземпляраў.

Або... родная мова адназначна «сыходзіць з яснай явы», а ў нас функцыяніруюць два беларускія правапісы, гэта значыць сучасная беларуская мова (дзяржаўная) і першая літаратурная мова са сваімі лексічнымі наборамі. Не, што ні кажыце, мы – унікальная нацыя!

За маёй узроставай мяжой, паводле аўтарытэтных знаўцаў, ужо не ствараюць шэдэўраў (маюцца на ўвазе вялікія) ні ў паэзіі, ні ў прозе.

Няма ў мяне ніякіх спадзяванняў і на тое, што рукапісы паэтычных, празаічных і перакладных твораў, якія ёсць у мяне, рана ці позна стануць кнігамі, якія я ўбачу. А столькі розных праектаў!

Найбольшай нечаканасцю для мяне было тое, што я ўрэшце (праз 11 гадоў!) пачуў першыя водгукі на раман «Каханне і смерць, або Лёс Максіма Багдановіча». Няўжо да гэтага часу ў нас не было крытыкаў?

Пакуль жыву – спадзяюся?

***Яўген МІКЛАШЭЎСКІ***

**Ад рэдакцыі.** *Пакуль жывеш, спадзявайся, дарагі Яўген Васільевіч. Доказам таму няхай будзе ваш верш «Пасланне з XXI стагоддзя», які мы мяркуем надрукаваць пазней!*



*Малюнак В. Шаранговіча з «Новай зямлі», выдадзенай на беларускай, рускай і польскай мовах*
*Кнігу яшчэ можна набыць у БФК*
*(тэл. для даведак – 234-42-03 і 283-28-26)*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–15)*

## «Ўстаньце, хлопцы, устаньце, браткі!»

*Не пытайце, не прасеце*
*Светлых песень у мяне.*
***Якуб КОЛАС***

Царскі суд учыніў расправу менавіта над Коласам-паэтам. Да суда ён перажываў розныя непрыемныя калізіі, быў пад пастаянным назіркам паліцыі, што не давала яму нідзе пастаянна затрымацца і мець свой заробак, але і ў гэтых умовах было напісана нямала самых розных твораў. Звыш 50 з іх пабачыла свет на старонках «Нашай Нівы», што зрабіла яго імя вядомым (так што пракурор меў на руках і публікацыі ягоных вершаў); іншыя творы, знойдзеныя пазней, будуць, як і Купалавы, надрукаваныя ў 1920–1930 гг.

Вершы Я. Колас прысвячаў роднай вёсцы, сялянам («Нёман», «Могілкі», «Вёска», «Роднае поле», «Людскія слёзы», «Мужычая ніва», якіх, як і яго завочны сябра, калега па творчасці Я. Купала, не прыймаў папрокаў, што толькі падкрэслівае нялёгкую долю вяскоўцаў, якія ў асноўным жывуць абмежавана і нявесела – праца ад світання да змяркання, беднасць, убогасць, панылы настрой, што суправаджалі адно за адным чалавечыя пакаленні. Як відушчы, шчыры і спагадны чалавек і творца, Я. Колас выяўляў у вершах народную душу (пазней, асабліва ў паэме «Новая зямля» ён зірне на вясковы свет значна шырэй, найперш у адлюстраванні ягонага побыту і ладу, сялянскай духоўнасці).

Перажываючы за звольненых з настаўніцкай працы калег, ён неаднаразова звяртаецца да іх:

*Ой, сябры мае вы, мілы,*
*Дзе цяпер вы, дарагія?*
*Ці схавалі свае сілы?*
*Ці ёсць думкі маладыя?*
*...*
*Не, няпраўда! Быць не можа,*
*Каб не грэла цёпла сонца.*
*Наша праўда нам паможа –*
*Блісне нам святло ў аконца!*

Гэтыя радкі – з верша «Сябрам», а яшчэ былі натхняльныя вершы «Кіньце смутак», «Не бядуй», «Згнанніку», «Сябрам-выгнаннікам», «Наша возьме» і іншыя, дзе паэт, як не цяжка было самому, маральна падтрымліваў сяброў па няшчасці, а таксама і іншых настаўнікаў, каб яны не трацілі чалавечую годнасць. Як вядома, у 1907 г. рэвалюцыйная сітуацыя ў Расійскай імперыі пачне ісці на спад, царызм, яшчэ маючы вялікую сілу, здолеў нейтралізаваць яе, а многіх вядомых палітычных і грамадскіх дзеячаў, як і раней, кінуў «перавучвацца» ў Сібір (там, на катарзе, напрыклад, апынуцца Коласаў дзядзька Язэп Лёсік і беларускіх паэт Алесь Гарун). У час, калі, можа, трэба было па пэўнай логіцы і паасцерагацца, Якуб Колас не можа змірыцца з усёладнасцю паліцэйшчыны і ў вершы «Вобразы самаўладдзя» гнеўна асуджае яе:

*Куды ні глянь – адно і тое:*
*Усюды стрэльбы і «шнуры» –*
*Стаяць па пары і па трое*
*На скрыжаваннях «каўняры».*

*(Працяг будзе)*

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*

*Школьнае краязнаўства*

# Досвед адной вандроўкі да былой вёскі

*(Заканчэнне. Пачатак у № 15))*

## Памятка савецка-польскай вайны

Ваваколіцах Стэфанполля былі баі не толькі з французамі, але і савецка-польскай вайны 1920 года. У гэтых мясцінах ар'ергардныя баі вёў 33-ці полк 8-й беларуска-літоўскай дывізіі пад камандаваннем Жэлігоўскага. У зацятых баях быў сарваны план Тухачэўскага поўнага акружэння і знішчэння ўсёй групоўкі польскага войска. Пасля вайны польскія ўлады добраўпарадкавалі могілкі, былі пастаўлены бетонныя надмагільныя помнікі, на блізу 30 з якіх былі выбіты прозвішчы, а ў цэнтры яшчэ адзін помнік – невядомым салдатам. Побач з пахаваннямі ўсталяваны знак загінулым чырвонармейцам. Падчас святаў тут адбываліся ўрачыстасці, ускладалі кветкі, школьнікі чыталі вершы.

Пасля вайны старшыня калгаса «30 год БССР» Клюеў загадаў зруйнаваць могілкі; помнікі павалілі, і мясцовыя жыхары забралі іх на падмуркі для хлявоў або хатаў. Гісторыя захавала імёны гэтых вандалаў: Панкраты, Чарняўскія, Глінскія... Але лёс пакараў іх саміх або іх нашчадкаў за парушэнне спакою памерлых. А старшыня Клюеў, як стала вядома пазней, на самой справе быў у вайну здраднікам, жыў па чужых дакументах, быў выкрыты органамі бяспекі і расстраляны.

Вучні Сіцькоўскай школы адшукалі толькі адзін надмагільны помнік і спрабавалі добраўпарадкаваць гэтае месца. Але сённяшнія вандалы разламалі шыльду і адкінулі яе ўбок. Вывучэнне гуртк оўцамі месца былых могілак дае магчымасць адшукаць шляхам раскопак пахаванні і аднавіць помнікі, як гэта было зроблена на могілках у Мёрах.

Працяг археалагічных разведак прынёс яшчэ адну знаходку – камень-зернедрабілку, якую можна было б аднесці да бронзавага веку, што дае магчымасць сцвярджаць аб існаванні на беразе ракі Дзісны паселішча II тысячагоддзя да нашай эры.

## Талапілы з Акунёва

Праз нейкі час мы зноў завіталі ў Акунёва. На гэты раз ад Р.А. Шымуковіч мы атрымалі дакладны адрас і звярнуліся да былога дырэктара школы Алены Трафімаўны і яе мужа Уладзіміра Макаравіча Талапілаў. Ад іх мы пачулі адказы і ўдакладненні на шматлікія пытанні.

Так, мы даведаліся, што для Пакроўскай царквы шмат зрабіў пан Ананіч з маёнтка Александрова. Ён набыў абраз Святога Серафіма. Царква перастала дзейнічаць пасля смерці апошняга святара Бяганскага ў канцы 1960-х гадоў. Царкоўныя рэчы былі перавезены ў храмы Язны, Дзісны і Шаркаўшчыны. Муж і жонка Талапілы выдатна ведаюць наваколлі і таму добра дапамаглі нам у лакалізацыі існуючых і не існуючых вёсак. Цікава было слухаць расповяды Уладзіміра Макаравіча пра падзеі вайны, якія ён запомніў, хоць і быў маленькім хлопчыкам. Акунёва практычна было партызанскай зонай, бо балота Ельня, дзе размяшчаліся партызаны, было зусім побач. Памятае, як жыхары пяклі партызанам хлеб, рамантавалі абутак, шылі вопратку. Нават праз 60 гадоў пасля вайны Уладзімір Макаравіч з хваляваннем узгадвае такі выпадак. Аднойчы ў вёску нечакана прыбыў карны атрад. А ён, тады 10-гадовы хлапчук, вяртаўся ад сваякоў з другога канца вёскі, куды хадзіў па каня. Яго каля самай хаты сустрэлі два п'яныя карнікі-латышы, якія пачалі весці допыт, мяркуючы, што хлопчык – партызанскі сувязны. Білі, штурхалі, ставілі да сцяны, пагражаючы расстрэлам. Невядома, чым скончыліся б здзекі, калі б не праходзіў побач стары Садоўскі. Удзельнік Першай сусветнай вайны, ён ведаў нямецкую і латышскую мовы і здолеў патлумачыць, што хлопчык не партызан. Калі ж тыя адышлі, яго маці кінула наўздагон праклён: «Каб вас першая ж куля не мінула за здзекі з майго сынка!» Пэўна, няма нічога больш страшнага, чым матчын праклён. Праз некалькі хвілінаў карнікі, ідучы па вуліцы, проста так далі некалькі чэргаў з аўтаматаў па хатах. Другі атрад карнікаў рухаўся ім насустрач. Падумаўшы, што наперадзе партызаны, яны наўздагад адкрылі кулямётны агонь. Першыя ж чэргі забілі крыўдзіцеляў. Так спраўдзіўся матчын праклён.

Расказаў Уладзімір Макаравіч і пра партызанскіх разведчыкаў з атрада Канапелькі, якія трапілі ў Верацюгах у засаду і былі забітыя. Адзін з іх быў мясцовы – Дзмітрый Апанасавіч Люцкі, таму пахаваны ён на акунёўскіх могілках. Прозвішча другога невядомае. Мы бачылі потым на могіках сціплы помнік з зорачкай, які паціху зарастае травой. На жаль, на ім няма ніякіх пазначэнняў. Пройдзе час, і ён стане зусім невядомым. Як сказаў Уладзімір Макаравіч, лёс усіх прызыўнікоў 1941 года з Акунёва трагічны – ніхто з іх не вярнуўся дахаты. У тым ліку і ягоны дзядзька, Аляксандр Максімавіч Талапіла.

## Былі (б) турыстычныя аб'екты

Згадзілася Алена Трафімаўна паказаць нам вясковыя могілкі. Ідучы да іх, прыпыніліся перад будынкам былой акунёўскай школы, дзе яна адпрацавала ўсё жыццё, была апошнім дырэктарам. Цяпер калісь велічны будынак – жудаснае відовішча. Прапановы Шымуковіча, выказаныя ў раёнцы, так і засталіся на паперы. Што яшчэ раз сведчыць аб узроўні культуры і гаспадарлівасці нашага грамадства.

Могілкі, якія зарастаюць, таксама яскравае таму пацвярджэнне, яны сведчаць ужо і аб душэўнай пустэчы. Асабліва жахліва выглядаюць старыя магілы. Хаваць продкаў тут пачалі яшчэ ў XVIII стагоддзі, аб чым кажуць камяні з выбітамі на іх старажытнымі крыжамі, многія сведчаць аб уніяцтве ў гэтым краі да 1-й паловы XIX стагоддзя.



Страчаны помнік: Пакроўская царква

## Сенсацыйныя знаходкі

Шчыра падзякаваўшы нашай праважатай, мы рушылі далей выконваць сваю праграму. Ізноў праходзячы праз мясціны Стэфанполля, большасць «арганаўтаў» не збочыла з дарогі, бо вакол была не ралля, а паша.

Але старэйшы гуртковец, студэнт БДУ Антон Ермалёнак, выбраў больш цяжкі шлях: а раптам і ў траве можна на што-небудзь натрапіць. І сапраўды, скрозь яшчэ не выраслую траву пачалі трапляцца ў вялікай колькасці кавалкі керамікі і кафлі. Падрабязнае далейшае вывучэнне і закладкі шурфаў дазволілі зрабіць цікавыя высновы. Менавіта на гэтым месцы існавала старажытнае Стэфанполле, пазней – маёнтак барона фон Беттынгера Амелькава, дзе ў колішняй карчме і было Стэфанпольскае валаснное праўленне. Найбольш інтэнсіўнае жыццё тут бруіла ў XVI–XIX стагоддзях. Такая выснова зроблена з таго, што захаваўся (нягледзячы на меліярацыю) культурны пласт. Але далейшая шурфоўка дазволіла нам зрабіць сенсацыйнае адкрыццё. Культурны пласт дасягнуў звыш аднаго метра, у ім была знойдзена кераміка X–XIII стагоддзяў, вугалле. Таму можна сцвярджаць, што мы хутчэй за ўсё адкрылі паселішча часоў Полацкага княства, якое, магчыма, мела і ўмацаванні, знішчаныя пазнейшым часам. Калі гэтае поле будзе ўзарана, «арганаўты» разам з сіцькоўскімі школьнікамі змогуць разам удакладніць гіпотэзу, знайшоўшы яшчэ шмат чаго.



Крыж на могілках у Паплавах

Яшчэ адно адкрыццё чакала нас пры даследаванні могілак каля вёскі Паплавы. Размешчаныя на высокім беразе ракі Йльнянкі, яны таксама ўзніклі на месцы гарадзішча жалезнага веку, маюць насычаны культурны пласт. Праўда, праводзіць шурфоўку і раскопкі мы зноў жа не маглі, таму пакуль што і гэта адкрыццё можна лічыць толькі гіпотэзай. Калісьці тут хавалі мясцовую шляхту, таму (як і паўсюдна) тут даўно раскурочаныя надмагільныя помнікі, магілы пашкоджаны шукальнікамі скарбаў. Чытаем знаёмыя з архіўных крыніцаў прозвішчы і імёны мясцовай шляхты.

Аляксандр Станкевіч (1856–1920). Яго нашчадкі вядомыя ў даваеннай Польшчы: Альбін Станкевіч валодаў Пагулянкай, Вацлаў Станкевіч – Ганусавым. Аляксандр Руткевіч (1826–1910). Пра ягоных нашчадкаў вядома: Вінцэнт Руткевіч валодаў Якубовам, Уладзіслаў – Юзэфовам, Разалія – Наважынцамі. Тут жа пахаваны іншыя сямейнікі Руткевічаў: Марыя з Дрэлінгаў Руткевіч (1839–1902); іх дачка Аляксандра, па мужу Пашкевіч (1869–1923); сястра Аляксандра Анеля, па мужу Нарушэвіч (1830–1910). Ёсць пахаванні роду Якавіцкіх. Спадзяемся, іх праўнучка, якая жыве ў Англіі і нядаўна прыязджала на Беларусь, не пабачыла жудасны стан магілаў сваіх продкаў. Ёсць яшчэ магілы Чаплінскіх і просты камень з жалезным крыжам і адным імем Ян, без прозвішча...

Але нас найбольш зацікавіў крыж са скразной адтулінай пасярэдзіне дыяметрам 10 см. Ён формай нагадвае старадаўнія хрысціянскія крыжы X–XIII стагоддзяў.

## Сядзіба Руткевічаў. Былая...

Апошняя наша мэта – вывучэнне былой сядзібы Руткевічаў у Якубове. На жаль, зноў – «былой». Пасля вайны тут месціліся бальніца, амбулаторыя, кватэры калгаснікаў, а некалькі гадоў таму – разбурана. Вось вам і развіццё турызму, а калі дайсці да справы, то ў апошнія гады знішчаныя шэраг гістарычных помнікаў, якія маглі б прывабіць турыстаў: Свята-Пакроўская царква, Акунёўская школа і апошні ў наваколлі панскі маёнтак. Вывучаючы рэшткі былой сядзібы, знаходзім чарапіцу з надпісамі заводаў Медунецкага ў Горках, Літвінава і самага знакамітага на ўвесь край завода Аскеркаў у Азярцах. Знаходка вялікай белай кафлі віцебскага завода Гарбузава, заснаванага ў 1794 годзе, іншыя знаходкі сведчаць аб тым, што сядзіба існавала з другой паловы XIX стагоддзя. З Якубова паходзіць і лётчык Янчэўскі, які загінуў, змагаючыся з фашыстамі ў небе Англіі.



Месца былой сядзібы ў Якубове



Сям'я Талапілаў



Нам засталася школа...

*Сабраныя ў вандроўцы сябрамі гуртка «Арганаўты мінулага» матэрыялы будуць яшчэ раз апрацаваныя і прааналізаваныя пад час працы ў гістарычным музеі Мёрскай СШ № 3.*

*Вітаўт ЕРМАЛЁНАК,*
*настаўнік Мёрскай СШ № 3,*
*кіраўнік гуртка «Арганаўты мінулага»*





# Прынямонне

*Такіх мясцін мала дзе знойдзецца на зямлі. Гродзенскі раён... Далёкія агні новабудоўляў і цёмныя волаты-замкі, партызанскія зямлянкі і старажытныя палацы. Азёры з белымі грабеньчыкамі на сіняй вадзе, і старыя сядзібы, і поўня ў люстэрку азёр, і музыка нашай мовы, і нашы пяшчотныя песні. І, галоўнае, гасцінны, добры, працавіты і таленавіты народ.*

*На вуліцах нашых вёсак востра адчуваецца, што сувязь часоў непарыўна: мінуўшчына нараджае сучаснасць, сучаснасць – будучыню. Спалучаюць звяно гэтай сувязі помнікі архітэктуры, што ўвабралі талент і працу пакаленняў. І да сённяшняга дня цяпло таленавітых і цярплівых рук вяскоўцаў, якія захоўвалі і адраджалі святыні, берагуць сцены старажытных збудаванняў. Калі чалавек зацікаўлены спыніцца, няспешліва ўглядзецца ў іх аблічча – падзеляцца старыя сцены таймамі стагоддзяў.*

*Сядзіба Гурскіх у Радзівілках, сядзібны дом у вёсцы Свіслач, палац Валовічаў у Свяцку, сядзібна-паркавы комплекс «Панямунь» – жывыя сведкі бурнага грамадскага і культурна-мастацкага жыцця нашага раёна ў далёкім XVIII стагоддзі.*

Палацава-паркавы ансамбль у Свяцку быў пабудаваны гродзенскім маршалкам Ю. Валовічам і яго сынам Антоніем. Праект палаца быў заказаны ў 1779 годзе архітэктару Джузэпе Сака, які ў той час працаваў у Гродне.

На невысокім пагорку маляўніча глядзіцца сядзіба, цэнтрам якой з'яўляецца двухпавярховы мураваны палац з высокім мансардавым дахам. Ён аздоблены пяцігранным эркерам, калонамі і рызалітамі, апрацаваны рустам. Паўцыркульныя галерэі ў выглядзе аркад злучаюць палац з двума перпендыкулярна пастаўленымі да яго флігелямі. Флігелі пакрыты вальмавымі дахамі, у дэкоры фасадаў выкарыстаны руставаныя лапаткі.

Шыкоўна выглядалі інтэр'еры палаца, якія былі шчодра аздоблены лепкай і насценным жывапісам: рамантычныя пейзажы з руінамі, антычныя пабудовы, статуі і вазы.

Парк пейзажнага тыпу, сярод якога стаіць палац, быў закладзены ў канцы XVIII стагоддзя. Перад палацам вялікі авальны партэр, які пераходзіць у сістэму рознаўзроўневых вадаёмаў. На беразе цэнтральнай сажалкі стаіць капліца, стылізаваная пад гатычную пабудову. За вадаёмамі вялікі лясны пагорак. З яго адкрываецца цудоўны, рамантычны краявід.

Нельга абмінуць увагай вёску Свіслач. Тут у канцы XIX стагоддзя ўладальніцай маёнт-ка – графіняй Красінскай – была пабудавана сядзіба, якая вылучалася формамі новага стылю – мадэрну. Трохпавярховы будынак, складзены з вапняку і цэглы, выглядае вельмі манументальна.

Ёсць вакол невялікі парк, утвораны ў старых пейзажна-натуралістычных традыцыях. Перад домам ён пераходзіць у вялікі парадны партэр, за якім уздоўж саду праходзіць шырокая грабавая алея. На крутым беразе рэчкі Свіслачы былі прыгожыя пляцоўкі на маляўнічую пойму.

Тайнамі народнага дойлідства падзеляцца касцёл Ушэсця Найсвяцейшай Дзевы Марыі (1 пал. XVIII ст.) у в. Адэльск, Свята-Праабражэнская царква (1844–1846) у в. Коматава, Мікалаеўская царква (1862) у в. Лаша, касцёл Праабражэння Гасподняга (1899) у в. Селіванаўцы, Свята-Дабравешчанская царква (1743) у в. Жытомля.

Не адмовім сабе ў задавальненні праехаць на поўдзень ад Гродна, каб паглядзець у вёсцы Індура старажытнае гарадзішча. Археолагі прыйшлі да высновы, што ў XI–XIII стагоддзях тут непадалёк ад ракі Індуркі на высокім мысе быў феадальны замак. Ён меў тры абарончых валы. Унутраная амаль круглая пляцоўка была ўмацавана валам вышынёй 2 метры, а перад ім быў даволі глыбокі роў. Другая пляцоўка – знешняя, мела авальную форму і таксама была абнесена валам, вышыня якога дасягала 3 метраў. Знойдзеныя падчас раскопак разнастайныя прылады працы, зброя і прадметы рыштунку воіна, кераміка, упрыгажэнні блізкія да знаходак, якія выяўлены ў Гродне на Замкавай гары.

У цэнтры вёскі на пагорку стаіць велічны касцёл Прасвятой Троіцы, які быў узведзены ў 1815 годзе намаганнямі ксяндза Радзевіча, а ў 1904 годзе рэканструяваны і пашыраны архітэктарам У. Срокам. Храм вытрыманы ў стылі ампір. Яго галоўны фасад мае магутны чатырохкалонны порцік з вялікім паўцыркульным праёмам. Сцены аздабляюць дарычны антаблемент і пілястры. Інтэр'ер храма мае тры алтары, выкананыя ў стылі позняга класіцызму.

Тут жа, у цэнтры вёскі стаіць мураваная Свята-Аляксандра-Неўская царква. Яна была пабудавана на ахвяраванні мясцовага памешчыка А. Казлоўскага ў 1881 годзе па праекце губернскага архітэктара І. Калянкевіча. Ім жа быў выкананы і праект іканастаса. Храм вытрыманы ў рэтраспектыўна рускім стылі. Адметнасцю яго з'яўляецца змешчанае на апсідзе вялікае мастацкае пано на евангельскі сюжэт.



Капліца-пахаванне Ю. Гурскага ў м. Сапоцкін

Касцёл Ушэсця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Адэльску



Палацава-паркавы ансамбль у Свяцку



Касцёл Найсвятой Тройцы ў Індуры

Унікальным помнікам гідратэхнічнага будаўніцтва з'яўляецца Аўгустоўскі канал, які злучае рэкі Віслу і Нёман. Даўжыня яго 101,2 кіламетры, з якіх 18,7 прыпадаюць на Беларусь. На прылеглай да яго тэрыторыі размясціўся Сапоцкінскі дзяржаўны заказнік дзікарослых лекавых раслін.

Уражваюць шлюзы канала. Па ўсёй яго даўжыні налічваецца 15 шлюзаў, з іх некалькі цяпер знаходзяцца на тэрыторыі нашай краіны: Кужынец, Валкушак, Дамброўка і Нямнова. На Аўгустоўскім канале штогод ладзіцца свята «Аўгустоўскі канал у культуры трох народаў». Тут сустракаюцца самадзейныя творчыя калектывы і выканаўцы з Беларусі, Літвы, Польшы.

Сёння канал пачынае актыўна выкарыстоўвацца аматарамі воднага турызму, дзякуючы дасягнутаму беларуска-польскаму міжурадаваму пагадненню. Хутка на карце з'явяцца прычалы, порты, гасцініцы, кемпінгі. Аўгустоўскі канал зачароўна. Ён здаецца мудрагелістым, нейкім нерэальным, амаль прывідным уяўленнем з мінулага... А вакол – непаўторны мясцовы краявід – чароўны, некрануты край узгоркаў, лясоў і азёраў.

Колькі паэтаў, мастакоў, навукоўцаў, кампазітараў натхніла на творчасць гэтая зямля са светлымі бярэзнікамі, каласістымі нівамі, бабровымі затокамі.

«Сярод лашанскіх курных хат, у царкоўнай школе задарожнай» ўбачыў свет у 1860 годзе будучы філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, палеограф, акадэмік Пецярбургскай АН Яўхім Карскі.

*Цудоўны тут край:*
*бары, пушчы шумяць.*
*Шмат дзічы.*
*І птушак спеў звонкі.*
*Крыніцы шапочуць,*
*азёры блішчаць,*
*А ноччу ў іх – месяц і зоркі.*

*Апанас Цыхун*

У маёнтку Мількаўшчына нарадзілася «каралева жывога слова і пакутлівай праўды» Эліза Ажэшка – выдатная пісьменніца, творчая спадчына якой вельмі багатая і шматгранная: звыш пяцідзесяці тамоў розных празаічных жанраў, «краскі» якіх яна «збірала з палёў беларускіх», а «Нёман, як бацька, тулíў яе к сабе і гушкаў».

«Паляцелі ў прастор...», «...дзе звон птушак ў барах, гулкі шум ў гарадах, дзе калгасныя сцелецца ўсходы», і творы беларускага паэта Міхася Васілька, які родам з вёскі Баброўня Гродзенскага раёна.

А вось як прызнаецца ў любові да роднай сэрцу Кунцаўшчыны наш зямляк, краязнаўца, фалькларыст, заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь Апанас Цыхун: «Як былінка з полем, зжыўся я з табою. І цябе навекі пакахаў да слёз».

Напеўныя, сумныя народныя песні, пачутыя ад матулі і аднавяскоўцаў Іванам Адамовічам, жыхара в. Верцялішкі, пераўтварыліся ў зборнік народных песень «Скарб сэрца роднай матулі». Вершы работнікаў культуры – Святланы Якаўлевай, Аляксандра Барысевіча, Івана Адамовіча пакладзены на музыку самадзейных кампазітараў Юрыя Іофэ, Мікалая Светава. Іх песні з задавальненнем выконваюць удзельнікі мастацкіх калектываў раёна.

Напэўна, не ўсе ведаюць, што ў Гродзенскім раёне нарадзіўся і рос М. Пачобут-Адляніцкі (1728–1810), які пазней стаў знакамітым астраномам.

Аб слаўным гераічным мінулым нашага краю сведчаць помнікі і абеліскі. Скідзельскія камсамольцы-падпольшчыкі В.М. Вусаў, В.І. Соламава, К.І. Чычкова, В.В. Фацін, М.Ф. Грыгаровіч і многія іншыя назаўсёды застануцца ў памяці нашчадкаў прыкладам мужнасці і адданасці сваёй Радзіме.

Гродзенская зямля натхняе не толькі мастакоў і паэтаў. Сёння тысячы працаўнікоў вёскі жывуць клопатамі аб упрыгожанні яе, аб памнажэнні багацця краю.

***Вось і падыходзіць да канца мой аповед пра Гродзенскі раён – край незлічоных багаццяў, раскарчаваных лясоў і ўробленых на іх месцы палёў, велічных палацаў, дзе жылі нашы продкі, «дубоў-асілкаў, якія вартуюць тайны курганоў» і дзе «гамоніць бацька-Нёман».***

*І калі вам, паважаныя чытачы, хоць на некалькі гадзін захацелася апынуцца ў вёсачках нашага раёна, сустрэцца з іх таленавітымі жыхарамі, пачуць цудоўныя матуліны песні, дакрануцца да прыгожых тканых дываноў і ручнікоў – шчыра запрашаем вас.*

*Словам, той, хто прыедзе сюды, не пашкадуе.*

*Наталля РАМАНОВІЧ,*
*галоўны спецыяліст аддзела культуры Гродзенскага райвыканкама*

## Май

**1 – Карнач Пётр Аляксеевіч** (1932, Чэрв. р-н – 1996), мастацтвазнавец, мастак, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996) – 75 гадоў з дня нараджэння.

**1 – Кляўко Генадзь Якаўлевіч** (1932, Пухав. р-н – 1979), паэт, перакладчык – 75 гадоў з дня нараджэння.

**2 – Кудрэвіч Уладзімір Уладзіміравіч** (1927, Мінск – 2003), акцёр, заслужаны артыст Беларусі – 80 гадоў з дня нараджэння.

**3 – Грыневіч Антон Антонавіч** (1877, Полац. р-н – 1937), збіральнік і папулярызатар беларускага музычнага фальклору, выдавец, педагог, кампазітар – 130 гадоў з дня нараджэння.

**6 – Гастэла Мікалай Францавіч** (1907–1941), удзельнік абароны Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза (1941) – 100 гадоў з дня нараджэння.

**11 – Баравікова Раіса Андрэеўна** (1947, Бяроз. р-н), паэтэса, перакладчыца, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1987), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1994), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (1998) – 60 гадоў з дня нараджэння.

**14 – Жыновіч (сапр. Жыдовіч) Іосіф Іосіфавіч** (1907, Пухав. р-н – 1974), цымбаліст, дырыжор, кампазітар і педагог, народны артыст Беларусі і СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1968) – 100 гадоў з дня нараджэння.

### З народнага

## Цярэшка і Давыд

*Жылі два суседы адзін ад аднаго*
*На во столечкі*
*І не зналі адзін аднаго нісколечкі.*
*Сустрэліся яны аднаго разу*
*на вуліцы.*
*– Здароў, Давыд!*
*– Здароў, Цярэшка!*
*– Адкуль жа ты знаеш, што я Давыд?*
*– Дык у цябе ж паважны від.*
*– А адкуль ты знаеш,*
*што я Цярэшка?*
*– Дык у цябе ж нос, як качарэжка.*
*– Э, дык мы, значыць,*
*адзін аднаго знаем,*
*За сабой бяды не маем,*
*Дык хадзі, хадзі, сядзь во дзе –*
*На выгодзе, на асінавай калодзе.*
*Табачку нюхнём*
*Дый за мора махнём.*
*Ну, і селі ж яны во дзе –*
*На выгодзе, на асінавай калодзе.*
*Цярэшка табаку нюхнуў,*
*А Давыд яму ў вуха дзьмухнуў.*
*– Дык ты што да мяне маеш,*
*У гэта мяне забіваеш?*
*– А на што ж ты мой ражок*
*За пазуху запіхаеш?*
*– Эй, дык гэта ж мяне бог пакараў.*
*Я ўчора ў сваты хадзіў*
*І нікому не сказаў.*
*– Дык ты што, ашалеў? У сваты*
*Ды яшчэ ў гэтай шапцы лахматай?*
*А я ж во ў шапцы новай,*
*Дык пайшлі да дачкі старшыновай.*
*Цярэшка ўзяў хлеба букатку*
*І сала лапатку*
*К плячам прывязаў,*
*Каб іх ніхто там не дараваў.*
*Яшчэ сонца не заходзіць,*
*К старшыну на двор прыходзяць.*
*– Здароў, брат Курыла!*
*Дзе ж твая дачка Куліна?*
*– Што вам нада ад маей Куліны?*
*Ды яшчэ супроць ночы?*
*Павыкалю вам вочы.*
*Як падмазалі яны пяткі*
*Ды хутчэй да сваёй хаткі.*
*З таго часу Давыд*
*Страціў паважны від,*
*А Цярэшка*
*І цяпер ходзіць, як качарэжка.*

***Запісана ў в. Астапаўшчына Ушацкага раёна***

## Да Года Слова Купалы і Коласа

### Уздоўж

**1**. Вёска ў Маладзечанскім раёне, радзіма Я. Купалы. **3**. Верш Я. Купалы, напісаны ў Пецярбургу ў 1910 г. **5**. «Вось як цяпер, перада мною // Ўстае... той прыгожа» (з паэмы Я. Коласа «Новая зямля»). **7**. Урачысты верш. **8**. «... гуляе» (верш Я. Коласа, напісаны ў 1909 г. і надрукаваны ў «Нашай Ніве»). **9**. Адгароджанае месца ў свірне для ссыпання збожжа, мукі. **11**. «Сымон-...» (паэма Я. Коласа). **12**. «Ажно з гоняў Беларусі // Ў... паляцелі гусі» (з верша Я. Купалы «У вырай», 1918 г.). **13**. Імя дзяўчынкі. **17**. Васьмірадкоўе, страфа з 8 вершаваных радкоў. **19**. Верш Я. Коласа, напісаны ў 1907 г. **21**. Трава, што вырасла ў той жа год на месцы скошанай. **23**. «А дзядзька быў... заўзяты» (з паэмы Я. Коласа «Новая зямля»). **26**. Асоба каманднага саставу ў арміі і флоце. **27**. «А пірагі, як сонца, ззялі, // І ў роце бабкі раставалі. // Са смакам елі і багата – // На тое ж даў бог людзям...» (з паэмы Я. Коласа «Новая зямля»). **30**. Праходзіць Пакрова – раве дзеўка, бы... (прык.) **33**. Вядомы верш Я. Купалы, напісаны ў Ляўках у 1935 г. **34**. Дзяржанне ў прыладах працы. **35**. «А як цяпер... быў парожан, // То там Алесь прымайстраваўся, // Сядзеў на кукішках, гайдаўся» (з паэмы Я. Коласа «Новая зямля»). **36**. Свята заканчэння жніва. **37**. Леснічоўка, у якой жыла сям'я Я. Коласа, і якая ў паэме «Новая зямля» называецца Парэччам. **38**. «Коціцца, ўецца далінкай..., // Б'ецца, пляскоча ў каменнях вадзіца» (з верша Я. Купалы «З летніх малюнкаў», 1911 г.).

### Упоперак

**1**. «... і зязюлька» (назва беларускай народнай казкі ў апрацоўцы Я. Коласа). **2**. «... наш дбалы, акуратны, // а пры рабоце які здатны!» (з паэмы Я.Коласа «Новая зямля»). **3**. Дзіцячы штомесячны часопіс, які з дня заснавання шмат публікацый прысвяціў творчасці Я. Купалы і Я. Коласа. **4**. Верш Я. Купалы, напісаны ў Ляўках у 1935 г. **5**. Апавядальны твор пра выдуманых асоб і падзеі. Шырока выкарыстоўваўся ў творчасці Я. Купалы і Я. Коласа. **6**. Беларускі празаік, паэт, мастак, аўтар вадэвіля «Модны шляхцюк». Сядзеў разам з Я. Коласам у мінскай турме, дзе зрабіў ілюстрацыі да яго твораў. **8**. Вядомы беларускі кампазітар, аўтар оперы «Машэка», рамансаў на вершы Я. Купалы і інш. **10**. «Сямтам... раскрывае // Свой пучок зялёны, // Дзе-нідзе ўжо яго вусік // Блісне на загонах» (з верша Я. Коласа «Рольнік», 1908 г.). **11**. «Мая... » (верш, напісаны Я. Купалам у 1906 г. у фальварку Карукі Койданаўскай воласці па дарозе да Я. Коласа). **14**. Паэма Я. Коласа, напісаная ў 1943–1944 гг. **15**. Зборнік геаграфічных карт. **16**. «... і думы» (верш Я. Купалы, 1908 г.). **20**. «... і я» (паэма Я. Купалы, напісаная ў 1913 г. у Акопах). **21**. Першая электрастанцыя на Беларусі ў Аршанскім раёне, якую Я. Купала і Я. Колас наведалі ў 1928 г. **22**. Рака, правы прыток Пцічы, якая дала назву вядомай паэме Я. Купалы. **24**. Шчыльныя вароты, крытыя зверху. **25**. Возера ў Стаўбцоўскім раёне. **28**. Верш Я. Купалы (1911 г.). **29**. Тое, што і затрата. **31**. «Як... курачку ратаваў» (беларуская народная казка ў апрацоўцы Я. Коласа). **32**. Верш Я. Купалы (1905–1907 гг.).

***Склаў Лявон ЦЕЛЕШ, г. Дзяржынск***




## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВЯСНЯНКІ** – народныя творы з цыкла веснавых песень, што выконваліся ў час гукання вясны. Яны звычайна былі кароткія, простыя, звязаныя з календарным перыядам, мелі мэтай паўздзейнічаць на прыроду, папрасіць яе памагчы ў земляробчай справе. Гуканне вясны і спяванне вяснянак у асобных мясцінах пачыналася з 1 сакавіка, а ўсюды – з 25 сакавіка. Яны адухоўлівалі вясну, міфалагізавалі гэты вобраз і ў той жа час падкрэслівалі рэалістычныя адносіны да яе. Асноўны сэнс – «замыканне» зімы і «адмыканне» лета. У многіх выпадках песні пачыналіся аднолькава: «Ці дазволіце, старыя людзі (старыя дзяды), нам вясну-красну выгукаці», «Блаславі, маці (Божа)». У звароце да старых альбо Бога выяўляўся водгук старажытнасці, калі ўсе важныя работы пачыналіся па дазволе старэйшын. Побач з ушанаваннем абуджанай прыроды вялікую частку вяснянак складалі любоўныя песні, прысвечаныя таму светламу, што абуджалася вясной у чалавечай душы («воран крача – есці хоча, дзеўка плача – замуж хоча»).

Яркі ўзор творчай апрацоўкі вяснянак у літаратуры даў Я. Купала. У яго «Вяснянцы» з паэмы «Яна і я» матывы прыходу вясны («Ой, брала вясна ў сонца ключы, Адчыняла сырую зямельку, Пускала на свет траву-мураву, адзявала ў лісце бярозы») спалучаны з матывамі заклікаў шчаслівага кахання («Каб доля, як мак цвіце, зацвітала, Каб каханне расло, як пшанічка, Каб мілы мяне мой верна любіў І галубіў ў святліцы, як шчасце»).

**ВЯТРАК** – ветраны млын, спецыяльнае збудаванне для памолу зерня з дапамогай ветру. У Заходняй Еўропе вядомы з XII–XIII стст. На Беларусі з'явіўся ў XVI ст., найбольш быў пашыраны ў XVIII – пач. XX стст. Асноўнае ў ветраку – парныя крылы (4 ці 6) каркаснай канструкцыі, вярчальны момант ад якіх праз сістэму валоў і зубчастых колаў перадаецца на камяні паставаў. Паводле канструкцыі ветракі падзяляюцца на стрыжнёвыя (козлавыя, слупавыя) і шатровыя. Стрыжнёвыя мелі ў аснове прасторавую крыжавіну з тоўстых бярвёнаў – козлы. Высокі каркасны квадратны ў плане аб'ём з 2-схільным дахам (часам з залобкам з аднаго боку) паварочваўся вакол цэнтральнага слупа. Больш дасканалыя і магутныя шатровыя ветракі мелі высокі стацыянарны ніжні аб'ём (8-гранны зрубны ці каркасны) і рухомую верхнюю частку – шацёр, паваротам якога (з дапамогай дышля) ставілі крылы супраць ветру. Шатровыя ветракі былі найбольш пашыраныя на Усходняй Беларусі, стрыжнёвыя – у Заходняй.



### Народ загадаў

Касмаціцу раздуў, горкае выплюнуў, салодкае з'еў.

*У полі дамок, а ў дамку сынок.*

У нашага кныра на сем сажэнь жыла, на вярху кветкі, дзе родзяцца дзеткі.

*Паміж гор, паміж ям звіў гняздо Купрыян.*

Сам пан у чырвоным, слугі ў зялёным.

*Залатое рэшата, чорных домікаў шмат. Колькі чорных домікаў, столькі беленькіх жыхароў.*

Адгадайце, дзеткі: на пупу кветкі.

*Латка на латку, а іголка не была.*

Ляжыць тоўсты карапуз, адпусціўшы доўгі вус.

*Жоўтае цельца расце ў зямельцы, а зялёная каса глядзіць у небяса.*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч,

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 26.04.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 478
Тыраж 1420 асобнікаў.